

# ДОБРЫ ВЕЧАР

Добрый вечер

МІНСКАЯ ГАРАДСКАЯ ГАЗЕТА

1993 ЛІПЕНЬ 20 АЎТОРАК

№ 135 (570)

Цана 5 рублёў

## СТАЛІЧНАЯ ХРОНІКА

*ПА ПАВЕДАМЛЕННЯХ КАРЭСПАНДЭНТАЎ «ДВ», АГЕНЦТВАЎ РІД, БЕЛАПАН, БЕЛІНФАРМ*

☐ ФОТОФАКТ



### ВЫПУСК В АКАДЕМИИ МИЛИЦИИ

В Академии милиции МВД Республики Беларусь состоялся очередной выпуск. Сто пятьдесят человек получили высшее образование, а сто шестьдесят три — среднее. Это те, кто ранее поступал в Минскую специальную среднюю школу милиции им. М.В.Фрунзе. Большинство лейтенантов пополнит службы уголовного розыска, следствия, ОБЭП.

На торжественном мероприятии с руководством МВД присутствовал первый заместитель Председателя Верховного Совета РБ Вячеслав Кузнецов. Восьмерым выпускникам он вручил дипломы с отличием.

НА СНИМКАХ: диплом вручает заместитель министра МВД РБ генерал–майор Владимир Данько; отличник учебы лейтенант Игорь Санников, будущий ОБЭПовец Ленинского РОВД столицы.

Текст и фото А.ДРОЗДОВА.

☐ КОРОТКО

### ЛЕТОМ ДУМАЙ О ЗИМЕ

Соб. инф. «ДВ».

По данным Минсксельхозпрода для обеспечения горожан картофелем и овощами на осень-зиму 1993-94 гг. планируется заготовить из хозяйств Минской области 50 тысяч тонн картофеля и 54 тысячи тонн овощей. Кроме того, 17 тысяч тонн свежих овощей будет завезено из-за пределов Беларуси. Уже заключены договоры на поставку 2480 т капусты, 8710 т помидоров, 5630 т репчатого лука, 2335 т других овощей, 8940 т яблок, 3570 т винограда, 2985 т бахчевых.

А пока в город поступают помидоры из Туркмении и Азербайджана, абрикосы из Венгрии. Заметно увеличилась реализация цитрусовых: в этом году в магазинах продано более 1500 т апельсинов и лимонов.

### НЕЖАРТОЎНЫ ЖАРТ

Ноччу з 15 на 16 ліпеня супрацоўнікамі рэспубліканскага Міністэрства ўнутраных спраў і камітэта дзяржаўнай бяспекі затрыманы так званы «жартаўнік», які па тэлефоне пагражаў узарваць адну з дзяржаўных устаноў Мінска.

Аматару прыгод гэты званок будзе каштаваць нямала. На рахунак «жартаўніка» будуць запісаны ўсе расходы, панесеныя супрацоўнікамі абодвух ведамстваў на пошук і затрыманне тэлефоннага хулігана. Асобнай графой пойдуць затраты сапёрнай групы, якая абследавала будынак. А канчатковыя вынікі падвядзе суд, на разгляд якога ў бліжэйшыя дні будзе перададзена крымінальная справа.

☐ ВЫСТАВЫ

### ЧАНЧУНЬ ПРАПАНУЕ СВАЕ ТАВАРЫ

Ул. інфарм. "ДВ"

УЧОРА ў выставачным павільёне (пр.Машэрава, 7) урачыста адкрылася выстава прадукцыі з г.Чанчунь (КНР).У адкрыцці прынялі ўдзел мэр горада Мінска А.М.Герасіменка, яго намеснікі, віцэ-мэр г.Чанчунь, прадстаўнікі кампаній-удзельніц выставы, дыпламатычнага корпуса, дзелавых колаў рэспублікі і краін бліжняга замежжа.

У прамове пры адкрыцці выставы сп. А.М.Герасіменка адзначыў, што прадукцыя, выраблeная ў горадзе-пабраціме Мінска — Чанчуні, вызначаецца высокай якасцю, яна вельмі сучасная і будзе карыстацца попытам у жыхароў сталіцы. Ён пажадаў плёну ў працы дзелавым людзям і выказаў упэўненасць, што на гэтай выставе будуць заключаны дагаворы на пастаўку кітайскіх тавараў у наш горад.

На стэндах прадстаўлена каля тысячы экспанатаў розных кампаній з г.Чанчунь і аднайменнай правінцыі. Сярод іх — традыцыйны тэкстыль і вырабы з яго, тэрмасы, адзенне і абутак для дарослых і дзяцей, цацкі, посуд, прадукты харчавання і напоі, фармацэўтычныя прэпараты на аснове традыцыйнай кітайскай медыцыны (з кораню жэньшэня,на аснове пантаў аленя і гэтак далей). Прадстаўлены таксама радыёэлектроніка ,складаная бытавая тэхніка.

Чанчуньская кампанія па імпарту і экспарту зерневых,алеяў і прадуктаў харчавання (адзін з галоўных арганізатараў выставы) прапануе вялікі выбар зерня харчовага і фуражнага, прадуктаў перапрацоўкі сельгаспрадукцыі.

Спадзяемся,што мэта выставы — азнаёміць дзелавыя колы і жыхароў Мінска з прадукцыяй, выраблeнай у кітайскім горадзе Чанчунь, — будзе дасягнута, а ў ходзе гандлёвых перамоў у час яе правядзення бізнесмены дамовяцца аб развіцці доўгатэрміновага ўзаемавыгаднага супрацоўніцтва, аб стварэнні сумесных прадпрыемстваў.

☐ КАНТАКТЫ

### ЦІ СТАНЕ «ФІЛІПС» БЕЛАРУСКІМ?

Намеснік старшыні Савета Міністраў Беларусі Мікалай Косцікаў прыняў у Доме ўрада прэзідэнта канцэрна «Філіпс» Дж.Тымера. Абмеркаваны пытанні наладжвання ўзаемавыгадных эканамічных адносін. Дж.Тымер, у прыватнасці, выказаў задавальненне тым, што першыя крокі ў гэтым напрамку ўжо зроблены. У Мінску адкрыта прадстаўніцтва канцэрна, завязаны партнёрскія сувязі з ВА «Гарызонт».

«Мы ў сваей дзейнасці, — падкрэсліў кіраўнік «Філіпса», — не імкнёмся да лёгкага фінансавага поспеху, асвойваючы новыя рынкі, наша мэта — стаць неад'емным структурным элементам эканомікі тых краін, дзе мы працуем. Магчыма, таму ў Германіі лічаць нашу фірму нямецкай, у Францыі — французскай...»

Ці стане «Філіпс» для Беларусі «сваёй» фірмай, пакажа час, а таксама ўзаемнае жаданне абодвух бакоў да супрацоўніцтва. Як паказала сустрэча ў Доме ўрада, такое жаданне ёсць.

☐ СПАРТЫЎНЫ СЕРВІС

### *НЕФУТБОЛЬНЫЯ ПАКУТЫ ЛЕСУНА*

У складанай сітуацыі апынуўся абаронца мінскага «Дынама» Генадзь Лясун. Даверыўшыся Ізраільскаму спецыялісту ад футбола, які выступіў у ролі пасрэдніка, ён, як і належыць, аформіў неабходныя дакументы са сваім клубам і сабраўся ў Ізраіль з надзеяй на хуткую сустрэчу з новай для яго камандай. Але вылецець на «запаветную зямлю» ён пакуль не можа.

А застапарылася ўсё ўвогуле з-за «дробязі». Проста футбольны дылер забыўся аформіць для мінчаніна ўязную візу ў сваю краіну. А калі, уволю насeдзеўшыся на чамаданах, Генадзь звязаўся з Ізраільскім «пратэжэ», то быў нямала здзіўлены другой акалічнасцю. Аказваецца, паслугі футбаліста прапануюцца не нейкай пэўнай камандзе. Ён будзе мець магчымасць толькі трапіць у трэніровачны лагер, дзе звычайна на прагляд збіраюцца трыццаць-сорак іграков.

Але і такое «шчасце» для яго магчыма толькі пры наяўнасці той самай візы. Што датычыць дынамаўскага клуба, то Лясун там лічыцца адкамандзіраваным за мяжу.

■ АКТУАЛЬНА

## БЕЛАРУСЬ ШУКАЕ ПРЫЧЫНЫ, А ЛІТВА — МАГЧЫМАСЦІ?

Андрэй КОРСАК, уласны кар. БелаПАН у Вільні

Так можна ахарактарызаваць адносіны дзвюх краін да сваіх суайчыннікаў — беларусаў у Літве і літоўцаў у Беларусі, супаставіўшы два факты мінулых дзён.

Факт першы: 13 ліпеня на літоўскім радыё прагучала інтэрв'ю Станіслава Шушкевіча, у якім на пытанне карэспандэнта пра дапамогу беларусам у Літве Старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі адказаў, што Беларусь не можа ўмешвацца ў справы суседняй краіны. Тут варта нагадаць, што беларусы Віленшчыны не адзін раз звярталіся да С.Шушкевіча ў справах грамадзянства, адукацыі, культуры і інш. Але так і не атрымалі ні адказу, ні дапамогі.

Факт другі: 14 ліпеня ў літоўскім друку апублікавана пастанова ўрада Літвы «Аб дапамозе літоўцам у Беларусі», з якой відаць, што афіцыйная Літва дапамогу сваім суайчыннікам у вёсках Гродзенскай вобласці не разглядае як умяшанне ва ўнутраныя справы іншай краіны. «Улічваючы просьбы беларускіх літоўцаў — жыхароў Гярвят — пра дапамогу ў будаўніцтве Цэнтра літоўскай культуры ў Гярвятах, а таксама з мэтай задавальнення некаторых іншых патрэбаў... урад Літоўскай Рэспублікі пастанаўляе асігнаваць у 1993 годзе з дадаткова атрыманых сродкаў дзяржаўнага бюджэту Літвы для клуба «Гервяцяй» 135 мільёнаў талонаў, у тым ліку 90 мільёнаў талонаў на фінансаванне будаўніцтва Цэнтра літоўскай культуры ў Гярвятах. 15 мільёнаў талонаў — на завяршэнне будаўніцтва Цэнтра літоўскай культуры ў Пялясе і 30 мільёнаў талонаў — на дапамогу літоўскай грамадскасці ў Апсе, Гярвятах і Пялясе».

Далей у пастанове загадана Міністэрству фінансаў Літвы вызваліць будаўніцтва цэнтраў у Гярвятах і Пялясе ад усіх падаткаў і мыта. Міністэрству замежных спраў Літвы — вырашыць усе прававыя пытанні з адміністрацыяй Беларусі і дамовіцца, каб Беларусь не абкладала будаўніцтва сваімі падаткамі, падрыхтаваць літоўска-беларускую дамову, паводле якой асяродкі ў Гярвятах і Пялясе будуць прызнаны за ўласнасць Літоўскай Рэспублікі. Міністэрству аховы краю — дамовіцца з беларусамі пра вольны пераход граніцы для беларускіх літоўцаў. Міністэрству культуры і асветы — рыхтаваць настаўнікаў для літоўскіх школ у Беларусі, стварыць ім там умовы жыцця і працы. Міністэрству сувязі — распаўсюджваць у Беларусі літоўскі друк і перыёдыку, наладзіць паштовую сувязь непасрэдна з Літвы ў Апсу, Гярвяты і Пялясу. Міністэрству камунікацыі — пусціць аўтобусы і г.д.

На заканчэнне беларускія літоўцы атрымліваюць сваё грамадскае памяшканне ў цэнтры Вільні. Такім чынам, тры тысячы літоўцаў з трох беларускіх вёсак атрымліваюць рэжым максімальнага спрыяння. На жаль, 60 тысяч беларусаў Віленшчыны, што не маюць ні сантыметра сваёй «культурнай плошчы» і чыя грамадская дзейнасць трымаецца выключна на энтузіязме, пра такую пастанову ўрада Беларусі не могуць і марыць.

■ АДУКАЦЫЯ

## БДУ: ЮРЫСТЫ Ў ПАШАНЕ, КІБЕРНЕТЫКІ Ў ЗАГОНЕ

Святлана ЛІЦКЕВІЧ.

15 ліпеня ў Белдзяржуніверсітэце была завершана праца прыёмнай камісіі. Па ацэнках членаў камісіі, за месяц працы не было пададзена столькі заяў, колькі ў апошнія два дні. Абітурыент, яшчэ не стаўшы студэнтам, ужо мае звычку рабіць усё ў апошні момант.

Па ўмовах прыёму, атэстат можа быць прыняты, калі ў ім менш за тры «двойкі». Але, як паведамілі карэспандэнту БелаПАН, да падліку «двоек» справа не дайшла — скрозь «харашысты» ды «выдатнікі».

Колькасць чалавек на месца ў цэлым па ўніверсітэце аказалася вышэй, чым год назад, у 1,5–2 разы. Самым прэстыжным працягвае заставацца факультэт правазнаўства (юрфак). Па колькасці заяў, пададзеных на 14 ліпеня, — сярод абітурыентаў на кожнае месца — па два «медалісты». Пры наборы ў 125 чалавек пададзена 538 заяў, з іх 274— абітурыентамі, якія маюць медаль або дыплом з адзнакай.

Дастаткова вялікі конкурс і на матэматычны факультэт — 5 чалавек на месца. Крыху здаў пазіцыі філалагічны: на самае прэстыжнае ў мінулым годзе аддзяленне беларускай мовы і літаратуры конкурс крыху меншы, чым два чалавекі на месца. А самы маленькі конкурс на факультэт эканамічнай кібернетыкі (1,4 чалавека на месца). Не ў пашане цяпер кібернетыка?..

■ МЕРКАВАННІ

## ІДЭЯ НАЛЕЖЫЦЬ КПСС...

Канстанцін ГЕНІК, БелаПАН.

Цікавую інфармацыю паведаміў журналістам старшыня Беларускага народнага фронта Зянон Пазьняк на прэс-канферэнцыі, якая адбылася па выніках навукова-практычнай канферэнцыі «Шляхі выхаду з паліўна-энергетычнага крызісу». Па яго словах, ідэя стварэння Балтыйска-Чарнаморскага калектара, якая абмяркоўвалася на канферэнцыі, належыць яшчэ КПСС. «У 1963 годзе Савет Міністраў СССР і КПСС, — сказаў Зянон Пазьняк, — выдалі нават распараджэнне, каб гэты калектар стварыць. Гэтай ідэяй КПСС таксама займалася, але не змагла ажыццявіць...». Яшчэ болей лідэр БНФ заінтрыгаваў журналістаў, калі сказаў, што пазней аб гэтым будзе «сказана больш падрабязна», а пакуль гэта толькі інфармацыя да ведама.

■ ПОЗДРАВЛЯЕМ

## ОТМЕЧЕНЫ ЛУЧШИЕ

Как известно, в прошлую среду в горсовете прошел семинар–совещание по вопросам профилактики правонарушений. В самом конце заседания в торжественной обстановке наиболее отличившиеся члены ДНД и другие активные помощники правоохранительных органов были отмечены памятными подарками (наручными часами и кофейными сервизами). От всего сердца мы поздравляем отличившихся минчан и публикуем их список. К награде их представили ассоциация «Население за безопасность» и Минский городской штаб ДНД.

Члены добровольных народных дружин:

Бартош Л.Г., Борбут Л.Н., Везицкий В.А., Вязицкая М.В., Хлыстов Г.А. — общественный пункт охраны порядка № 11 Заводского района;

Воробейчик В.М. — общественный пункт охраны порядка № 16 Фрунзенского района;

Гладкий В.Н. — Минский завод вычислительной техники;

Грабовский Б.В. — авиационно-техническая база аэропорта «Минск-1»;

Демьянович А.С. — МПОО «Луч»;

Дядко Е.М. — депо №3 трамвайно-троллейбусного управления;

Зинковская Л.М. — Минский завод специального инструмента и технологической оснастки;

Коледа М.И. — общественный пункт охраны порядка № 55 Октябрьского района;

Кравцов М.К. — БелНИИ АСУ;

Куницкая З.Н. — Минский часовой завод;

Иванова Л.И. — институт «Белгипромясомолпром»;

Плисковская Г.М. — институт «Белбыттехника»;

Лукьянов А.Ф. — ПО «Криница»;

Отцецкий А.Н. — Минское арендное предприятие обьемноблочного домостроения;

Силич О.М. — Минский завод шестерен;

Сорока В.И. — ПО «БелВАР»;

Шилов И.Д. — завод «Транзистор»;

Ясюкевич А.В. — завод 407 ГА.

Члены товарищеских судов:

Неверов И.Ф., Рашаль А.М., Федосеев А.М. — микрорайон «Центр» Ленинского района;

Слуцкер М.Я. — ЖЭС № 34 Центрального района.

Председатели советов общественных пунктов охраны порядка:

Гражанский В.Ф. — № 109 Фрунзенского района;

Довнар Н.И. — № 45 Московского района;

Иванов А.Ф. — № 41 Московского района;

Белоблоцкий В.О. — № 11 Заводского района;

Разумова Н.Н. — № 44 Московского района;

Семенчуков В.В. — специалист 1-й категории Октябрьского райисполкома по организации работы общественных формирований.



## КАЛЯНДАР

Аўторак, 20 ліпеня.

СОНЦА — 5.02/21.27.

Даўжыня дня — 16.25.

МЕСЯЦ — маладзік 19 ліпеня, усход 6.24/захад 21.31.

ІМЯНІНЫ

Сёння:

Праваслаўныя — Еўдакіі, Фамы.

Каталіцкія — Маргарыты, Чэслава.

Заўтра:

Праваслаўныя — Яўленне іконы Найсвяцейшае Багародзіцы ў горадзе Казані.

Каталіцкія — Ваўжынца, Даніэля.



## К сведению пассажиров!

В связи с капитальным ремонтом ул. М.Богдановича на участке от ул. В.Хоружей до ул.Киселева 21 и 22 июля закрывается движение трамвайных маршрутов 3, 4, 5, 10 от пл. Зм.Бядули до д.с. «Озеро». На период закрытия трамвайного движения организуется временный автобусный маршрут «д.с.Озеро — пл.Зм. Бядули».

С 21 по 24 июля и с 28 по 29 июля движение троллейбусных маршрутов №№ 22, 25, 37, 46, 53 будет организовано по улицам Сурганова — Куйбышева — Я.Купалы; обратно: Я.Купалы — Куйбышева — В.Хоружей; автобусных маршрутов: 38, 76, 91 по улицам В.Хоружей — Куйбышева — Я.Купалы в обоих направлениях. Автобусный маршрут № 72 — по улицам Я.Купалы — Куйбышева — В.Хоружей — Красной — Варвашени.

■ РОЗДУМ НАД ГАЗЕТНАЙ СТАРОНКАЙ

## ЖАЛОБНЫ ЛІСТ

Ул.інф.

**Старшына Сыч Сяргей Уладзіміравіч, 1971 г.н., беларус, г.Рэчыца Гомельскай вобл.**

Днямі «Правда» апублікавала гэты жалобны спіс пагранічнікаў 12-й заставы, загінуўшых у баі з маджахедамі перад світаннем 13 ліпеня. Як бачым — сярод загінуўшых наш зямляк.

Амаль адначасова праз сродкі масавай інфармацыі распаўсюджана навіна: Вярхоўны Савет Расійскай Федэрацыі атрымаў прапанову ваеннага ведамства Расіі прыняць зварот да парламентаў краін Садружнасці, удзельнікаў Дагавора аб калектыўнай бяспецы з просьбай накіраваць у Таджыкістан кантынгенты сваіх сіл.

Пакуль нашы беларускія парламентарыі дыскутавалі аб тым,ці падпісаў С.Шушкевіч Дагавор аб калектыўнай бяспецы, і ці так як трэба яго падпісаў, ва ўзброеных канфліктах гінуць беларускія хлопцы.

Многія афіцэры-беларусы, якія праходзяць службу на тэрыторыі Расіі, імкнуцца перавесціся ў Беларусь. Але зрабіць гэта ўдаецца толькі адзінкам. Радзіма не спяшаецца прыняць сваіх сыноў.

Беларускія сыны па-ранейшаму патрэбны на таджыкска-афганскай граніцы.

■ УЧЕНЫЕ ПРЕДЛАГАЮТ

## ПО ЯГОДЫ ПОРА!





СОЗРЕЛ хороший урожай ягод на плантациях Белорусского НИИ плодоводства, что в Самохваловичах под Минском. Каждый гектар дает более 120 центнеров плодов садовой земляники, малины, крыжовника, черной и красной смородины и других культур.

Ученые ведут большую работу по селекции и испытанию новых сортов. Уже сейчас здесь имеется около 45 видов ягодных культур, насчитывающих свыше тысячи сортообразцов. Впоследствии новинки селекции передаются в хозяйства республики для дальнейшего районирования.

Что касается минчан, они уже сейчас могут по достоинству оценить плоды труда ученых. На плантациях НИИ можно самим насобирать любое количество приглянувшихся ягод. При этом оплата значительно ниже рыночной.

НА СНИМКАХ: заведующий отделом ягодных культур НИИ кандидат биологических наук Анатолий Пантеев за работой в питомнике; в теплице с туманообразующей установкой для размножения ягодных культур методом зеленого черенкования.

Фото Владимира МЕЖЕВИЧА, БЕЛИНФОРМ.

